# *Грамадзяне!*

*Чытайце і пашырайце нашую газэту і памятайце, што амаль поўная адсутнасьць беларускіх часопісяў і газэтаў тлумачыцца нічым іншым, як нашаю шкоднаю прывычкаю — вельмі неакуратна высылаць грошы за газэту. Калі хочаце атрымліваць рэгулярна газэту, якая зьяўляецца пакуль што амаль адзінаю на нашых землях, — выконвайце свой грамадзкі абавязак чытача.*

*Газэта наша маець шмат недахопаў, але ў большай частцы яны тлумачацца адсутнасьцю матэр'яльных сродкаў.*

*У меру таго, як будуць больш рэгулярна наплываць грошы ад падпішчыкаў—газэта зможа павялічыць свой фармат і выходзіць разы 2-3 на тыдзень, а можа й штодня.*

*Пакуль што, дзякуючы павялічэньню ліку падпішчыкаў— мы маем цяпер магчымасьць рэгулярна выдаваць газэту 1 раз на тыдзень.*

*Памятайце, грамадзяне, што адчуваецца вялікая патрэба ў белар. часопісі і што гэтую патрэбу Вы можаце задаволіць толькі сваімі ўласнымі высілкамі.*

## Народна-сацыялістычны рух Гітлера у Нямеччыне.

Тэлеграф разнес па ўсяму сьвету пра вынікі выбараў у Нямеччыне. Увесь сьвет з напружаньнем чакаў на заканчэньне выбараў, бо яны павінны былі паказаць якія існуюць суадносіны палітычных сілаў у гэтай дзяржаве, на якую многія паглядаюць з занепакаеньнем.

Гэтыя выбары паказалі, што ідзець накапленьне сілаў па двох праціліжных, узаемна зніштажаючых полюсах—камуністычным і г. зв. фашыстоўскім.

Камуністы ў гэтых выбарах значна ўзмацнілі свае сілы. Падчас апошніх выбараў яны атрымалі 3.263.354 галоса і мелі 54 мандаты, ў гэтым годзе яны атрымалі ўжо 4.578.708 галасоў, а паслоў у Рэйхстагу будуць мець — 76. замест 54 якія прайшлі туды ў прошлых выбарах.

Безумоўна вынікі сёлеташніх выбараў Кампартыя Нямеччыны будзе лічыць вялікім сукцэсам для сябе і са свайго боку маець рацыю. Павялічэньне лічбы паслоў аж на 22 асобы—ёсьць фактам з якім трэба лічыцца. Але з другога боку ня можна ў поўнай меры падзяляць аптымізм і Комінтэрну, які безумоўна пратрубіць на ўвесь сьвет а выніках выбараў у Нямеччыне,

Есьць там і іншая сіла, на якую трэба зьвярнуць увагу і якая прынясець вельмі многа занепакаеньняў і хлопату як нямецкай кампартыі так і ўсяму Камінтэрну.

Сілай гэтай з'яўляецца народна-сацыялістычны рух Гітлера, які паказаў вялікую здольнасьць да шыбкага росту і які пацягнуў за сабою шырокія масы.

Гітлераўцы падчас апошніх выбараў сабралі 806.777 галасоў і мелі 12 паслоў.

У гэтым годзэ яны сабралі **6.401.210** галасоў і будуць мець аж **107** паслоў.

Гэтакім чынам сілы гітлераўцаў значна перавышаюць сілы камуністаў.

Не пашкодзіць бліжэй прыглядзіцца — што фактычна ўяўляюць сабой гэтые „гітлераўцы“ ці іначай як іх называюць—народныя сацыялісты.

Народна сацыялістычны рух пад кіраўніцтвам Гітлера паўстаў у Нямеччыне адразу пасьля аканчэньня сусьветнае вайны і адразу прыняў рэзкі проціў-камуністычны характар.

На пачатку гэты рух быў чыста баявы і яго ўчасьнікі рэкрутаваліся пераважна з нацыяналістычнае моладзі.

Нацыяналістычныя баёўкі паўставалі ўва ўсім краі і на пачатку ня былі паміж сабою звязаны.

У кожным вокрузе гэтыя баёўкі распраўляліся з камуністамі зусім самастойна. У даволі хуткім часе гэтыя баёўкі ачысьцілі край ад бальшавікоў, і зьліквідавалі г. зв. „Спартакоўцаў“.

Барацьба гэта каштавала многіх ахвяраў.

У адным толькі Бэрліне ў працягу 1918 і 1919 гадоў згінула падчас хатняе вайны амаль што 10.000 чалавек. Тады былі перабіты амаль усе камуністычныя правадыры на чале з Розай Люксэмбург і Лібкнехтам.

Пасьля таго як гэтыя антыбальшавіцкія баёўкі ўпараліся з камуністычным рухам яны былі зьліквідаваны.

Застаўся толькі адзін г. зв. „Штальгельм“, чыста вайсковая арганізацыя., куды і ўліліся ўсе баёўкі і меншыя вайсковыя аддзелы.

„Штальгельм“ становіцца баявой арганізацыяй нацыяналістычнай нямецкай партыі і яе прыватнай арміяй.

У гэты прыблізна час пашыраецца ў паўдзеннай Нямеччыне народна-сацыялістычны рух пад кіраўніцтвам Гітлера, які таксама пры помачы баёвак прыймаў энэргічны ўдзел у ліквідацыі камуністычнага руху. Гітлер з корням вырваў компартыю ў Саксоніі, якая нейкі час нават была там пры ўладзе.

Пачуўшы пад сваімі нагамі грунт—Гітлер не захацеў падпарадкавацца нацыяналістычнай партыі. а прыступіў да арганізацыі сваей уласнай.

За прыклад да будовы партыі ён узяў фашызм у Італіі, на чале якога стаіць Мусоліні.

Праграмай Гітлера зьяўляецца дыктатура такая самая як і ў Італіі.

У сфэры сацыяльна-эканамічнай ён выдвігаець шмат дамаганьняў, якія павінны задаволіць патрэбы работнікаў, дробнай буржуазіі і працоўнай інтэлігенцыі.

Гэтыя клясы яму верацьі ідуць за ім, доказам чаго служыць той сукцэс, які ён атрымаў у апошніх выбарах.

Трэба дадаць яшчэ, што гітлераўцы з'яўляюцца крайнімі нацыяналістамі і антысэмітамі.

Гэтакім чынам рух, вызваны Гітлерам, зьяўляецца як бы „процівуядзіем“ на камунізм у Нямеччыне.

Пашыраецца ўплыў кампартыі — і ў яшчэ большай меры пашыраецца гітлераўшчына, якая стасуець тыя-ж самыя мэтады барацьбы, як і камуністы.

Часта прыходзіцца дзеля гэтага чытаць у газэтах пра бойкі паміж камуністамі і гітлераўцамі, у якіх звычайна пабітымі з'яўляюцца камуністы.

Адначаснае ўсіленьне гітлераўскага лагеру і камуністычнага давядзець у Нямеччыне да завастрэньня ўнутранай барацьбы.

Вынікі гэтай барацьбы ў нас не выклікаюць ніякага сумліву: камунізм будзе там разьбіты, альбо ён зьменіць сваю тактыку і перастане быць тым, чым ён быў да гэтай пары.

Розныя „уклоны“ у самой Кам. партыі Нямеччыны сьведчаць аб тым, што ня ўсе сябры гэтай партыі падзеляюць у поўнай меры лінію, накрэсьляную Комінтэрнам на апошніх яго з'ездах

# Палітычнае жыцьцё.

## Польшча.

### Устава аб абароне дробных дзержаўцаў (арэндатараў).

Пан Прэзыдэнт Рэчыпаспалітай падпісаў, паводлуг вестак пададзеных праз ПАТ 13 верасьня г. г. распараджэньне а прадоўжаньне ўставы з дня 31 ліпня 1924 г. аб абароне дробных рольных дзержаўцаў—на працяг яшчэ 3 гадоў. Адначасна з гэтым падпісана распараджэньне аб падаткавых палёгках для уноўвазведзяных будынкаў.

### Адозва Рэвалюцыйнае фракцыі Польскай сац. партыі.

У газ. „Przedświt“ (ад 13 верасьня 1930 г.) надрукована вялікая адозва „да працоўных гарадоў і вёсак“, якая парушае справу арыштаў б. паслоў.

Абгаварыўшы справу траўнёвым пераваротам, які быў скірованы па думцы аўтараў адозвы, проці арганізатараў фашыстаўскага перавароту і які меў быць праведзяны польскаю рэакцыйй на чале з г. зв. „Хіена—Пястам“—адозва затрымоўваецца над пытаньнем — за чаго ў сутнасьці кажучы, апазыцыя вядзе барацьбу. „Ці-ж за правы народу змагаецца фашыст Рыбарскі? Ці за разбудову забяспечаньняў сацыяльных і пашырэньне правоў работніцкае клясы змагаецца Карфанты? Ці а распашырэньні і разбудове дэмакратыі змагаюцца рэакцыанеры Тромпчынскі і Вітас?

І на гэтыя слушныя пытаньні адозва дае такі адказ: „Эндэцка-Вітасаўска-Карфантаўская хэўра змагаецца з-за ўлады і ўрадаў для сябе“... „А ў гэтай барацьбе за ўладу эндэкаў, хадэкаў і вітасоўцаў памагаюць ім сябры Польскае Партыі Сацыялістычнай—цэкавісты, якія прадаўшыся рэакцыі... зьяўляюцца аружжам у яе руках“.

Адозва затрымоўваецца на характэрыстыцы сёньняшніх саюзьнікаў ППС, эндэкаў, вітасоўцах і іншых рэакцыйных партыях і прыпамінае ім іх варожыя адносіны да працоўных масаў з таго часу, калі гэтая як раз хэўра была пры ўладзе, частка якой апынілася цяпер у вастрозе.

У далейшым прыводзіцца цэлы рад дамаганьняў палітычнага і сацыяльнага зьместу, якія па думцы яе аўтараў павінны быць праведзяны ў жыцьцё“.

### Дэманстрацыя „Цэнтралеву“ ў Варшаве.

14 верасьня г. г. адбыўся сход прыхільнікаў „Цэнтралеву“, з'арганізаваны праз правадыроў апазыцыі да сучаснага ўраду.

Аб гэтым сходзе пісалася ў газэтах ужо даўно і праз увесь час рабочыя масы падбухторваліся да нейкіх рашучых выступленьняў і дэманстрацыяў.

На сход зьявілася да 1500 чалавек, а на яго заканчэньні таўпа, нешта каля 1000 асоб устроіла варожую дэманстрацыю.

Падчас таго, як разганяліся дэманстранты, нехта кінуў у паліцыю ручны гранат, які параніў некалькі чалавек, як звычайна, зусім нявінных людзей. Апрача гэтага з таўпы былі дадзены рэвальвэрныя стрэлы, ад якіх таксама пацярпела некалькі людзей.

Дэманстрацыя была хутка зьліквідавана праз паліцыю, якая арыштавала да 100 асоб.

У іншых гарадох той-жа „Цэнтралеў“ таксама дабіваўся вызваць разрухі, але як падаюць газэты—гэтыя дамаганьні пасьпеху ня мелі.

---

У Варшаве падчас гэтых забурэньняў, як падаюць апошнія газэты аказалася 2 забітых і 18 раненых. Есьць некалькі раненых і ў некаторых іншых гарадох як напр. у Тораню, Радаме і Чэнстахове.

Характэрна ў гэтых забурэньнях тое, што закулісвымі рэгентамі ўсяго гэтага зьяўляюцца такія паны, як эндэкі і вітасоўцы, якім ня стольскі разыходзіцца а „правы дэмакрацыі“, сколькі а свае ўласныя інтарэсы.

### Сьледзтва ў справе дэманстрацыяў.

У зьвязку з апошняй дэманстрацыяй у Варшаве ў арэшце знаходзіцца 50 асоб. Большая частка арыштаваных будзе адказваць за стральбу ў паліцыю і выкліканьне забурэньня.

## Заграніцай.

### Ліга Нацыяў.

#### Справа Пан-Эўрапейскага Аб'еднаньня.

Як было прадбачана Брыян выступіў 11/IX на Агульным Зборы Лігі з вялікай прамовай ў справе Эўрапэйскага Аб'еднаньня. Але, спаткаўшы ўжо ў папярэдняй нарадзе рашучы апор з боку сваей думцы англійскай і інш., дэлегацыяў Брыян казаў без усякага захопленьня і без тэй сілы аратарскага таленту, якой ён выдаецца нават спасярод усіх сусьветных дзяржаўнікаў у Жэнэве. Замест „усе-Эўрапэйскага Аб'еднаньня“, ці нейкай Эўрапэйскай Фэдэрацыі, Брыян, хочучы адратаваць, што толькі можна з сваей ідэі, казаў ужо толькі „аб сталым супрацоўніцтве дзяржаваў Эўропы дзеля утрыманьня міру“... На большае не згадзіўся Гэндэрсон!... У канцы Брыян заявіў, што. „пакуль ён будзе на чале францускай дыпламатыі, ён не дапусьціць ніякага нарушэньня міру ў Эўропе“...

Пасьля Брыяна выступіў Гэндэрсон. які думцы Брыяна ахвяраваў у сваей прамове толькі некалькі слоў, заявіўшы, што „Англія падтрымае працу эўранейскіх дзяржаваў ува ўсіх галінах — дзеля ўтрыманьня міру“. Далей у сваей прамове Гэндэрсон настайваў на хутчэйшым склікаваньні канфэрэнцыі ў справе агульнага разбраеньня“. У галіне загарантаваньня бясьпечнасьці, даводзіў Гэндэрсон, зроблена ўжо шмат, але ў галіне разбраеньня—яшчэ залішне мала“. Англія, казаў ён. падпіша ўсе трактаты і пакты, гарантуючыя мір, але пад варункам безадкладнага склікаваньня разбраенчай канфэрэнцыі і рашучага распачацьця разбраеньня. Гэтая тэза англійскай палітыкі, якую падзяляе Нямеччына, Італія ўсе проці-вэрсальскія дзяржавы Эўропы, як ведама, вострa супярэчаць так званай „францускай тэзе“, якая лічыць, што мір і бясьпечнасьць дзяржаваў (стоючых азброенымі да зубоў за Вэрсальскі трактат) у Эўропе зусім яшчэ не так добра загарантавана, каб можна было ўжо распачаць рашучую акцыю агульнага (іх уласнага) разбраеньня. Такім чынам ізноў і на гэтым адрэзку міжнароднага фронту дыскусія аб Брыянавай „Пан-Эўропе“ зьвялася да спору паміж двумя лягерамі ў Эўропе: „вэрсальскім“ і „проці-вэрсальскім“.

У выніку далейшай дыскусіі справе „Эўрапейскага аб'еднаньня“ ўрэшце Ліга Нацыяў пастанавіла перадаць у спэцыяльную камісію—„для разгляду“, каб яна здала справаздачу з сваей працы на наступным агульным зборы Лігі. Як дасьціпна кажа жэнэўская прэса, брыянава шляхотная, але нерэальная цяпер думка здабыла ў Лізе „лагодныя хаўтуры першае клясы“...

І гэта—цалком зразумела.—Як можна цяпер казаць аб цясьнейшым аб'еднаньні Эўропы, калі яна, як сказана, рэзка, каб не сказаць, ваяўніча-варожа падзелена на два лягеры: абаронцаў нятыкальнасьці трактатаў і праведзенымі граніцаў і праціўнікаў апошніх, дамагаючыміся перагляду трактатаў. Брыян, высоўваючы сваю думку аб „Пан-Эўропе“ (пазычаную ім ад нямецкага пацыфіста, барона Кудэнговэ-Калергі), меў на мэце замацаваць сучасны тэрытарыяльна-палітычны лад і стан у Эўропе, карысны для Францыі і дзяржаваў „францускае групы“. З свайго боку „проці-вэрсальскія“ дзяржавы даводзяць, што будову гмаху „Усе-Эўрапэйскага Аб'еднаньня“ можна распачаць толькі „пасьля грунтоўнага перагляду тэрытарыяльна-палітычнага ладу сучаснай Эўропы, які пагражае ўсьцяж няўхільнай вайной—з прычыны несправядлівых граніцаў“... Дык ясна, што ўсялякая гутарка ў справе паразуменьня дзяржаваў Эўропы заўсёды натыкаецца на гэтыя аснаўныя перашкоды і розьніцы ў паглядах двух варожых між сабой лягераў.

# Зьезд.

27 верасьня г. г. адбудзецца ў Вільні Зьезд прадстаўнікоў усіх беларускіх арганізацыяў і інстытуцыяў.

Зьезд будзе насіць арганізацыйны характар, на якім маець быць выбраны кіраўнічы ворган „Цэнтральнага Саюзу беларускіх культурна-асьветных і гаспадарскіх арганізацыяў і інстытуцыяў".

Кожная наша ўстанова павінна прыслаць сваіх прадстаўнікоў.

Зьезд склікаецца на 3 г. дня ў памяшчэньні Белар. Студэнтскага Саюзу—Віленская вул. № 8—3.

## Кароткія навіны.

Лёнданскі суд нядаўна прысудзіў, каб радавы ўрад заплаціў англійскай кампаніі „Лена Гольдфіельд" пару сотняў мільёнаў залатых рублёў—за страты па адабранай бальшавікамі канцэсіі на разработку залатых палёў на Лене (ў далёкай Сыбіры). Але бальшавіцкі ўрад заявіў, што ня прызнае гэтага англійскага суду, ня гледзючы на тое, што ў дагаворы з кампаніяй радавы ўрад абяцаў падпарадкавацца яго прысуду.

У вялікім вастрозе ў Бальтымары (Паўн. Амэрыка) выбухнуў бунт вязьняў.

2000 паліцэйскіх акружыла турму, дзе арыштанты ўжо зьвязалі ўсю стражу і адміністрацыю. Распачаўся фармальны штурм турмы, ў часе якога забіта 25 вязьняў.

17 верасьня зачынілася канфэрэнцыя дэлегатаў Польшчы, Латвіі і Эстоніі ў справе ўрэгуляваньня чыгуначнага руху паміж гэтымі краямі.

З 25 верасьня на Віленскім кірмашы і выстаўцы адчыняецца аддзел пушніны і птахаводзтва, а з 26/IX—аддзел жывёлаводзтва (коні, каровы, сьвінькі і інш.).

З прычыны забіцьця ў часе апазыцыйных дэманстрацыяў у Варшаве 14/IX аднаго работніка-камуніста, варшаўскія камуністы прабавалі выклікаць забастоўку. Але большасьць работнікаў аказалі спрацїў. На цэлым радзе фабрыкаў дайшло з прычыны гэтага да крывавых сутычак. Адзін работнік цяжка ранены.

З прычыны бязупыннай вайны, разрухі і голаду ў паўночнай Манчжурыі выбухла эпідэмія чумы, якая забівае ахвяраў сотнямі. Ахопленыя заразай абшары цалком адрэзаны ад сьвету—дзеля спыненьня яе пашырэньня.

Былы пасол украінскага клюбу Павал Васынчук арыштаваны ў Халме па загаду сьледчага судзьдзі. Прычыны арышту газэты не падалі.

Дагэтуль арыштавана было 7 украінскіх паслоў, з якіх 6 належылі да „Ундо" і 1 да радыкалаў.

Гаспадарчае жыцьце Англіі ўсьцяж перажывае нябывалы крызіс. Паводле апошніх афіцыяльных статыстычных даных недахоп таргавага балянсу Англіі за мінулыя 8 месяцаў дайшоў да 308 мільён. фунтаў, ці з зьлішкам мільярда залат. руб. Агульны гандлёвы абарот зьменшыўся ў параўнаньні з прошлым годам на 25%.

Ізноў 6 урадоўцаў радавых пасольскіх і гандлёвых установаў у Лёндане адмовілася вярнуцца ў Маскву, павялічыўшы сабой паважную ўжо лічбу так званых „невозвращенцев".

Камісарыят Гандлю апублікаваў лічбы аб „пасьпехах" акцыі па „хлебозаготовке" ў верасьні. Прадбачаны плян загатоўкі хлеба выкананы толькі на 9 прац. у цэнтральн. Расеі і на 1% у Сыбіры... Радавая прэса страшэнна абураецца за гэта, вінавацячы ў правале кампаніі... калхозы, якія адмаўляюцца дастаўляць збожжа, і — кулакоў, якія вядуць агітацыю сярод гэтых калхозьнікаў...

У Парыжу адбылася нарада расейскіх манархістаў, якія выдалі адозвы да ўсей расейскай эміграцыі. Адозва кажа, што рас. эміграцыя даволі сільная, каб у рашучую хвіліну прысьпяшыць канец бальшавіцкай ўлады ў Расеі.

Эміграцыя даволі багатая, бо мае вельмі значныя капіталы, вывезеныя ўласьнікамі з Расеі, мае добрую вайсковую арганізацыю, якая можа ў патрэбны час выставіць сільную армію. Аднаго не хапае толькі эміграцыі, гэта — еднасьці. Дык адозва прапануе ўсім эміграцкім партыям і арганізацыям згуртавацца навакол... „Цара Кірыла I, законнага наступніка дынастыі Раманавых". Пад адозвай падпісаны слаўныя прозьвішчы як Маркавых і іншых, якія якраз сваей палітыкай узгадавалі бальшавікоў і цяпер—пагрозай сваёго павароту ў Расею — найбольш умацоўваюць іх панаваньне...

Недахоп прадуктаў жывеньня прымае ў СССР, асабліва ў вялікіх местах, катастрафічныя разьмеры. Нават радавая прэса не хавае небясьпекі. А ў гэты самы час радавыя параходы дзесяткамі ідуць у парты Англіі, Францыі, Нямеччыны Амэрыкі і інш., вязучы хлеб, цукер і іншыя спажыўчыя тавары, якія амаль не задарма кідаюць на замежныя рынкі, каб толькі здабыць патрэбную ім нагвалт „цьвёрдую валюту"...

Здавалася, чаго-чаго але друкаванай паперы, кнігі, школьных падручнікаў, ведама-ж, — перадусім дзеля камун. агітацыі-радавая ўлада не шкадуе для свайго насяленьня — на ўсіх мовах. Але вось самі „Известия" пішуць, што нават у Маскве запасу школьных падручнікаў на мясцовым складзе „Госиздата" хапае толькі на тое, каб даць па аднаму падручніку на 10 школьнікаў... Усе афіцыяльныя весткі аб вялізарных запасах на гэтых складох аказаліся фальшывымі. Пэўне-ж паны прасьвяціцелі ізноў пракраліся.

Міжнародны Аўтамабільны кангрэс у Канстантынопалі высунуў праэкт збудаваньня вялізарнай шасы, якая-б, ідучы праз усю Эўропу, лучыла францускі порт Кале (на Ламаншы) з Канстантынопалям. Шаса гэтая мае ісьці праз Францыю, Бэльгію, Нямеччыну, Аўстрыю, Вэнгрыю, Югаславію, Баўгарыю і Турцыю, віючыся на прасторы каля 3.000 кілямэтраў. Кошты будовы мелі-б быць разложаны на ўсе гэтыя дзяржавы.

Тымчасовы ўрад у Аргэнтыне скасаваў усе дэкрэты былога дыктатара Івыгойена, якія супярэчылі законам. У краі аджывае палітычнае жыцьце (забітае скіненым прэзыдэнтам, пачынаецца гуртаваньне грамадзянства ў нацыянальныя партыі. Адна па адной дзяржавы прызнаюць новы ўрад у Аргэнтыне.

У радавых газэтах апублікаваны страшэнныя лічбы крывавага тэрору з чарговай справаздачы ГПУ за жнівень г. г. Усе 450 расстраляных за гэты месяц падзеляны на 6 катэгорыяў. На першым мейсцы стаяць ахвяры, якія „чынна процідзеялі калхознай акцыі ўраду"... Далей ідуць ахвяры, абвінавачаныя ў контр-рэвалюцыі, рэлігійнай прапагандзе і т. д.

Як пішуць замежныя газэты, у Канадзе існуе „Ліга брытанскіх украінцаў дзеля вызваленьня Украіны", якая распачала арганізацыю ўкраінскіх арміяў у Канадзе і Амэрыканскіх Станах Быццам Англія дае грошы і аружжа на стварэньне і ўзбраеньне гэтай арміі, на закладаньне ахвіцэрскіх школаў і т. д. Гэтыя арміі—ў выпадку англійска-радавай вайны—маюць быць высаджаны англійскім флётам у партох Чорнага мора.

Паводле аблічэньняў францускіх статыстыкаў усяго ў Польшчы ўложана францускіх капіталаў блізу 650 мільён. злотых. Гэтыя капіталы ўложаны пераважна ў — нафтавую, вугальную, мэталёвую, тканінную, электрычную і хімічную прамысловасьці. Найвялікшую ролю францускі капітал у Польшчы йграе ў нафтавай прамысловасьці, ў якой захапіў аж 55 прац., ці больш паловы ўсей польскай нафты. Францускі капітал складае 77 прац., ці звыш $^3/_4$ ўсяго замежнага капіталу, ўложанага ў польскія прамысловыя прадпрыемствы. У Польскай Сілезіі францускі капітал складае 15 прац., перад вайной меў толькі 5%. Французы маюць значную долю ў замежным капітале, ўложаным ў польскія банкі.

# Хроніка.

**Цэнтральны Саюз Беларускіх Культурна-Асьветных і гаспадарчых арганізацыяў і інстытуцыяў** распачаў сваю працу. За ўсялякімі спраўкамі, якія датычаць гэтага Саюзу, трэба зьвяртацца па адрасу: Wilno, Ostrobramska 9, m. 22,

× **Віленская Беларуская Вучыцельская Сэмінарыя імя Францішка Бегушэвіча.** 18 верасьня пачаліся заняткі ў Віленскай Беларускай Вучыцельскай Сэмінарыі, якая адчынілася і пачала сваю працу дзякуючы аграмадным высілкам беларускага грамадзянства ў Вільні. Многа трэба было патраціць працы і доўга абіваць парогі ўва ўсіх установах, пакуль справа з вучыцельскай сэмінарыяй не стала на цьверды грунт.

Цяпер мы маем, нарэшце, новую беларускую культурна-асьветную ўстанову, дзе будуць падгатаўляцца кадры беларускіх настаўнікаў у будучыя беларускія школы,

На чале Сэмінарыі стаў Р. Астроўскі, педагагічны пэрсанал складаецца пераважна з вучыцялёў Віленскае Беларускае Гімназыі і некалькіх новых асоб.

Цікава адзначыць, што наплыў кандыдатаў у Сэмінарыю быў неспадзявана вялікі, ня гледзячы на тое, што весткі пра Сэмінарыю былі пададзены вельмі позна.

На 40 вакансыяў на I-м курсе (адчынены ў гэтым годзе толькі гэты курс) была дапушчана да конкурснага экзамену 105 асоб, у тэй лічбе хлапцоў 33 і дзяўчын 72. Прыступіла да экзаменаў 29 хлапцоў і 61 дзяўчына і здала іх—дзяўчын 15 і хлапцоў 26,—усяго 41, якія і прыняты ў Сэмінарыю.

Гэта новая беларуская пляцоўка бязумоўна будзе мець вялікае, як на нашы варункі, значэньне ў нашым культурным жыцьці, калі існаваньню яе ня будзе рабіцца ніякіх перашкодаў,

Пажадаем са свайго боку пасьпеху ў працы нашай, пакуль што адзінай, Сэмінарыі, каб яна прынясьла ў будучыні карысьць нашаму пакрыўджанаму гісторыяй народу.

Будзем верыць у тое, што сучаснае кіраўніцтва Сэмінарыі на чале з Р. Астроўскім дасьць гарантыю яе разьвіцьця і посьпеху.

## Ад рэдакцыі і адміністрацыі газ. „Наперад".

Усе падпішчыкі нашае газэты, якія вышлюць да 1 кастрычніка гэтага году падпісную плату поўнасьцю за верасень, кастрычнік, лістапад і сьнежань—усяго 2 зл. 75 гр., — атрымаюць гаспадарча-кааперацыйную месячную часопісь „САХА" са зьніжкаю на 50%. Гэткім чынам, кожны наш падпішчык, выслаўшы ў рэдакцыю „Сахі" 1 злоты і аплаціўшы газэту „Наперад" да канца гэтага году — будзе атрымліваць „Саху" да 1 студзеня 1931 г.— за 1 злоты. — Падпіску за „Наперад" у суме 2 зл. 75 гр. і за „Саху"—1 зл. можна высылаць на адным пераказе, зазначыўшы толькі, якая сума ідзець на Саху, а якая на газэту.

× **Урачысты вечар, пасьвячоны 25-цігадоваму юбілею літэратурнай творчасьці Янкі Купалы.** 27 бягучага месяца адбудзецца, як мы ўжо падавалі раней, урачысты вечар. пасьвячоны 25-цігадоваму юбілею літэратурнай творчасьці Прарока Адраджэньня Беларускага Народу—Янкі Купалы.

У праграму гэтага вечару ўвойдуць:

1) Рэфэрат гр. А. Луцкевіча на тэму: „Янка Купала як Прарок Адраджэньня". Галоўныя тэзы рэфэрату: а) агульны пагляд на творчасьць Я, Купалы і мейсца яго ў бел. літэратуры; б) тэматыка твораў Я. Купалы; в) адраджэнскія матывы.

2) Дэклямацыя вершаў Я. Купалы.

3) Вучнёўскі хор.

4) Сцэнічны абразок Купалы „На папасе".

Даход з вечарыны вызначаны на карысьць незаможных вучняў Віленскай Бел. Гімназіі.

× **Суд над М. Сіняўскім.** 19 верасьня адбыўся суд над адказным рэдактарам газ. „Наперад" гр. М. Сіняўскім, які абвінавачваўся ў тым, што падчас прысуду над правадырамі Грамады — ў траўні 1928 году выказаў непашанаваньне Суду, кідаючы кветкі ў бок засуджаных, робячы воклікі на іх чэсьць.

Гр. М. Сіняўскі дастаў за гэтае „праступленьне" 1 месяц арышту. Калі гэта нарэшце закончыцца ўсякая цяганіна, зьвязаная з працэсам Грамады?

× **Новая беларуская часопіс.** Выйшаў з друку першы нумар сельска-гаспадарчае і кааперацыйнае часопісі „Саха", выданнае праз Цэнтральны Саюз Белар. Культ.-Асьв. і гаспадарчых арганізацыяў і інстытуцыяў.

Часопіс вышла на 32 старонках і маець досыць добра падабраны матэр'ял.

Трэба спадзявацца, што „Саха будзе пашырацца сярод беларускага грамадзянства, тым балей, што яна зьяўляецца адзінаю беларускаю часопісьцю, пасьвячонай гаспадарчым і кааперацыйным справам.

× У як найхуткім часе будзе зноў склікаены праваслаўны сабор у Польшчы.

Сябрамі Сабору ёсьць праваслаўны метрапаліта ў Польшчы, біскупы і вікарныя; з выбарных прадстаўнікі клеру і верных.

Правам выбараў, якія адбудуцца ў парафіях, карыстаюцца ўсе праваслаўныя мужчыны ня менш 30 гадоў. Сябрамі Сабору ад установаў ёсьць рэктары Віленскае і Крэмянецкае сэмінарыі, а калегія прафэсароў тэалёгіі Варшаўскага ўнівэрсітэту выберае з пасярод сябе двух сябраў Сабору.

# Пісьмо у Рэдакцыю.

Да гр. Рэдактара газ. „Наперад".

Ветліва просім гр. Рэдактара не адмовіць надрукаваць у газ. Наперад" ніжэй наступнае:

Прэзыд'юм Цэнтр. Белар. Правасл. Камітэту сцьверджываючы распачаты тэрор сумленьня сельскага духавенства арх. Хвядосам і Віленск. Кансысторыяй, якія выдалі загад выносіць на благачынніцкіх зьездах пратэсты супраць Ц.Б.П.Н. адначасна выказываючы давер арх. Хвядосу і Віл. Кансысторыі, змушаючы гетыя пратэсты падпісываць сьвяшчэньнікам паміма іх волі, пад пагрозай найдалей ідучых рэпрэсыяў, з другога боку сцьверджываючы распачатыя захады сяброў Віл. Кансысторыі перад паасобнымі сябрамі Камітэту мэтай наладжаньня згоды, а гэта шляхам правакацыйных нагавораў і перакупаў цераз сваіх людзей (Т. Кіршэўскі і інш.) — Прэзыд'юм Цэнтр. Белар. Прав. Камітэту гэтым ад імя тэрарызаванага духавенства і сяброў Камітэту рашуча пратэстуе супроць гэткіх правакацыйных дзеяньняў арх. Хвядоса і Віл. Кансысторыі і выносіць ім публічную пагарду і ганьбу.

Разам з тым Цэнтр. Бел. Прав. Камітэт дэкляруе і запэўняе прав. духавенства і белар. прав. народ распачатую барацьбу з арх. Хвядосам і Віл. Кансысторыяй, як ворагамі беларускага народу давясьці да пераможнага канца, ня гледзячы на ўсе брудныя захады і подкупы ворагаў белар. народу.

**Прэзыд'юм Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту.**

**Ад Рэд.** Варта было-б беларускаму грамадзянству бліжэй зацікавіцца царкоўнымі справамі, а асабліва тым, як фактычна праходзіць беларусізацыя царквы, гэтага важнага чынніка нашага грамадзкага жыцьця.

